

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№237 (750) 4—6 снежня 1993 г. Субота—панядзелак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 510223 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**В Государственном комитете Беларуси по внешним экономическим связям состоялась встреча первого секретаря посольства ФРГ в Беларуси господина Регенбрехта с заместителем председателя комитета Сергеем Атрощенко.**

В ходе встречи обсуждались вопросы развития деловых связей между двумя государствами, а также сотрудничества Беларуси с Европейским экономическим сообществом.

❑

**За первые три квартала 1993 года от экспорта продукции белорусских предприятий и фирм поступило 253,3 миллиона долларов США, от экспорта услуг — еще 39,4.**

❑

**После непродолжительного затишья вновь возобновились боевые действия в зоне армяно-азербайджанского конфликта.**

❑

**Российская делегация уехала из Эстонии с чувством огромного разочарования. Ни одного серьезного разногласия между двумя государствами устранить не удалось.**

В центре внимания были вопросы, связанные с заключением соглашения о выводе российских войск, условиях их временного пребывания на территории Эстонии и социальной защите российских военных пенсионеров и членов их семей.

❑

**Государственный комитет по нефти и газу Украины направил местным администрациям телеграмму, в которой рекомендовал изменить режим газоснабжения.**

Рекомендовано сократить подачу газа предприятиям металлургической промышленности на 30%, химической — на 25, другим предприятиям — на 90%.

❑

**Глава грузинского государства Эдуард Шеварднадзе предложил правительству рассмотреть вопрос о снижении нормы выдаваемого по талонам хлеба с 400 до 300 граммов на каждого человека.**

Выступая на заседании кабинета, он предложил также ежемесячно раздавать населению по 3 кг муки.

❑

**Президент Украины Леонид Кравчук заявил, что он "не доволен решением парламента о ратификации договора по СНВ-1".**

В ноябре Верховный Совет ратифицировал этот документ с многочисленными оговорками.

❑

**Штаб армии обороны Нагорного Карабаха опроверг сообщения ряда азербайджанских средств массовой информации о прибытии в Карабах армянских отрядов специального назначения из Сирии и Ливана.**




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Бывшие союзники заупрямились

**Не совсем удачной для российской дипломатии оказалась римская встреча министров иностранных дел 53 стран — участниц Совещания по безопасности и сотрудничеству в Европе.**

России так и не удалось добиться согласия на использование своих войск в миротворческих акциях в горячих точках бывшего СССР. Против этого решительно выступили бывшие союзники по Варшавскому договору и соседи по СССР.

### С новым "счастьем"!

**Только половина из 6 тысяч работников Витебского завода радиодеталей, входящего в ПО "Монолит", встретят Новый год с мыслью, что вслед за праздником вновь наступят трудовые будни.**

Столь серьезное сокращение штатов связано с резким уменьшением выпуска основной продукции — керамических конденсаторов, спрос на которые в СНГ резко упал по причине конверсии предприятий.

**Сергей ВИТЕБСКИЙ.**

### Спорт-экспресс

В Загребе встречались основные соперники сборной Беларуси в борьбе за путевку на чемпионат Европы по гандболу — команды Хорватии и Исландии. Матч закончился победой хозяев — 26:18. Белорусской команде осталось сыграть три матча на выезде: два с исландцами и один с хорватами. Таблица приобрела теперь такой вид:

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусь | 5 | 4 | 1 | 0 | 163—110 | 9 |
| Хорватия | 6 | 4 | 1 | 1 | 157—127 | 9 |
| Исландия | 5 | 3 | 1 | 1 | 123—103 | 7 |
| Финляндия | 4 | 0 | 1 | 3 | 100—120 | 1 |
| Болгария | 6 | 0 | 0 | 6 | 104—287 | 0 |

### Алло, "Сникерс", сколько времени? Ах, это "Баунти"!

**Оригинальное новшество внедрено на этой неделе московской городской телефонной сетью.**

Теперь, чтобы узнать точное время после набора цифры 100 абонент вынужден сначала выслушать рекламный ролик, а затем ему скажут время. И хотя назойливый рекламный трюк длится всего с десяток секунд, ежедневный гонорар изобретательных связистов составляет не один миллион рублей.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### Уроки немецкой демократии

**Гостями семинара по коммунальному самоуправлению в немецком городе Нинбурге стали представители демократических партий и движений из Витебска.**

Они подписали протокол о дальнейшем сотрудничестве с нинбургской организацией по международным контактам "IBW", побывали в штаб-квартирах местных партий. Дорогу оплачивали сами гости, а расходы по их пребыванию в Германии взяли на себя хозяева.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Кое-что и мы можем...

**Золотая Звезда вручена в Испании директору Брестского ликеро-водочного завода Василию Белко.**

Это — знак признания высокого качества производимого на предприятии продукта. Награду присудил специальный международный комитет.

**Василий САРЫЧЕВ.**

### Сколько можно доить?

**Четвертый день колхозы Осиповичского района бойкотируют поставку молочной продукции государству.**

Молоко сбывают кто где может на более выгодных условиях. Как сообщил председатель районного Совета народных депутатов Леонид Краминкин, бойкот будет продолжаться до тех пор, пока правительство республики не установит приемлемые цены на сельскохозяйственную продукцию, не произведет расчеты за уже реализованную продукцию. Эту акцию намерены поддержать и другие районы Могилевщины.

**Николай КОМЛЕВ.**

### "Афганцы" вышли на тропу... объединения

**В Жодино состоялась конференция Союза ветеранов войны в Афганистане и Ассоциации воинов-интернационалистов Республики Беларусь.**

Эти общественные организации реорганизованы в Белорусское объединение ветеранов войны в Афганистане.

**Анатолий АЛЕХНОВИЧ.**

### Неман превращается в сточную канаву?

**12 случаев аварийных сбросов неочищенных стоков в реку Неман зарегистрировано гродненским комитетом по экологии в нынешнем году.**

Областной комитет по экологии предъявил предприятиям, загрязняющим Неман, уже 10 претензий на сумму 1 миллион 570 тысяч рублей. Но какой ценой можно измерить ущерб, наносимый одной из самых красивых рек Беларуси?

**Андрей СЕРЕДА.**

### Не приведи Господь...

**Брестским облисполкомом утвержден план мероприятий по защите населения в случае аварии на Ровенской АЭС.**

Области вообще везет на украинские "атомки", так красиво те расположены. В случае неприятности с данной АЭС особому риску подвержены часть Кобринского, Ивановского, Дрогичинского, Пинского районов, относительно населения которых и ведет главную подготовку гражданская оборона. У ГО уже расписано все, вплоть до обращения к жителям. Благо, возглавляет областной штаб ГО полковник Бессмертный.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

### Новополоцкий костюм для норвежской зимы

**Заказ для олимпийской сборной Беларуси выполнила новополоцкая швейная фирма "Таис".**

Она пошила 200 тренировочных костюмов, которые будут необходимы нашим землякам на зимних играх будущего года в Норвегии. Одежда, смоделированная Ниной Каплуцевич, — синего цвета с бело-красно-белыми вставками.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Валерый Ціхіня таксама за правядзенне датэрміновых выбараў!

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

Народнага дэпутата Беларусі Валерыя Ціхіню нават з вялікімі нацяжкамі нельга лічыць прыхільнікам Беларускага народнага фронту, які ўжо столькі часу патрабуе правядзення датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета. Тым не менш учора менавіта з вуснаў гэтага дэпутата прагучаў чарговы заклік да калег: зрабіць усё магчымае, каб правесці новыя выбары ў сакавіку наступнага года. Чаму Валерый Ціхіня прыйшоў да такога вываду?

— Кожнаму разумнаму чалавеку бачна, што крызіс у эканоміцы дасягнуў ужо абвальнай мяжы. Беларускі карабель атрымаў моцную прабоіну, але яшчэ трымаецца на плаву. А што ў гэтых умовах прапаноўвае капітан карабля Шушкевіч? Абмяркоўваць Канстытуцыю. Мне думаецца — гэта несур'ёзна. Я яшчэ раз заяўляю: у нас няма аб'ектыўных умоў для прыняцця новай Канстытуцыі, у нас яшчэ не сфарміравалася эканамічная сістэма грамадства. Нават калі мы і прымем Канстытуцыю, то лёс у яе будзе вельмі кароткі. Таму мы павінны ў першую чаргу разглядаць эканамічныя пытанні, прыняць новы закон аб выбарах і зрабіць усё, каб выбары адбыліся вясной наступнага года!

Аднак выступленні ў "Розным" тым і характэрныя, што вельмі часта дэпутаты гавораць аб тым, што хвалюе іх і іх выбаршчыкаў, а вось рэакцыя на заклікі, прапановы бывае не заўсёды. Пасля прамовы Валерыя Ціхіні да мікрафона падышоў народны дэпутат Віктар Ганчар і сказаў, што ўчарашняе выступленне прэм'ер-міністра далёка выходзіць за межы інфармацыі аб выніках звычайнага візіту. Таму ён прапануе правесці гадзінную дыскусію па гэтай інфармацыі. Аднак большасць дэпутатаў не падтрымалі прапанову Віктара Ганчара. Гэтак жа завіслі ў паветры і пытанні народнага дэпутата Аляксандра Шута да прэм'ер-міністра:

— Як вядома, дармавы сыр бывае толькі ў пастцы. Таму вельмі хацелася б даведацца, на якіх умовах Расія пагасіла нам доўг за нафту? Крэдыт на газ Расія дала напрамую газаздабытчыкам, але гэты крэдыт давядзецца аддаваць нам. Хацелася б ведаць, які аб'ём крэдыту, пад які працэнт ён дадзены і калі яго трэба пагашаць. Па рублёваму пагадненню: цынічная заява міністра фінансаў Расіі Фёдарава аб тым, што Беларусь павінна ўвайсці ў склад Расійскай Федэрацыі, абражае мяне і як дэпутата, і як грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Дык скажыце, мы ўвойдзем у склад Расіі? Можа, хопіць нам спрачацца вакол прэзідэнцтва, лепш разгледзець пытанне аб пасадзе губернатара?

Народны дэпутат Аляксандр Шут задаваў і іншыя пытанні, але ўсе яны, паўтаруся, павіслі ў паветры. І, як я ўжо казаў, большасць дэпутатаў палічыла, што адказы на іх можна пачуць крыху пазней. А пасля традыцыйнага "Рознага" з інфармацыяй выступілі міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Фёдар Міравіцкі і міністр энергетыкі Валянцін Герасімаў. Што самае галоўнае можна выдзеліць з іх прамоў? Бадай, словы Валянціна Васільевіча Герасімава:

— На сённяшні дзень мы не можам дазволіць сабе жыць так, як жылі папярэднія гады...

Крыўдна, канешне, усім простым жыхарам рэспублікі гэта асэнсоўваць, калі толькі што закончыўся непараўнальна халодны лістапад, калі наперадзе па прагнозах сіноптыкаў даволі суровая зіма. Але... нікуды не падзенешся. Сярэдні запас паліва на электрастанцыях рэспублікі на дзесяць дзён, а на некаторых і значна меней. Агульная запазычанасць нашых прадпрыемстваў энергетыкам складае 255 мільярдаў беларускіх рублёў, а Беларусь павінна выплаціць 146 мільярдаў расійскіх рублёў. Не вельмі пашыкуеш з такімі даўгамі.

Але жыццё працягваецца. І народныя дэпутаты пасля інфармацыі двух міністраў пачынаюць абмяркоўваць пастанову Вярхоўнага Савета "Аб стварэнні пазабюджэтных фондаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў для фінансавання расходаў на ўтрыманне ведамасных жылых дамоў". Пасля даволі гарачых спрэчак пастанова прымаецца, дэпутаты пачынаюць абмяркоўваць падатковую сістэму рэспублікі.

У аўторак сесія Вярхоўнага Савета працягнецца.

*Афіцыйна*

## ... І ўсё ж не варта забываць і пра жанчын

**Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову "Аб мерах па паляпшэнню становішча жанчын".**

Беларускаму інстытуту навукова-тэхнічнай інфармацыі і прагнозаў сумесна з іншымі зацікаўленымі арганізацыямі даручана распрацаваць і ўнесці на разгляд Савета Міністраў рэспублікі нацыянальную праграму "Жанчыны Беларусі". У ёй, у прыватнасці, прапануецца прадугледзець забеспячэнне магчымасцей для рэальнага ўдзелу жанчын у дзейнасці дзяржаўных органаў, стварэнне арганізацыйных, эканамічных і прававых гарантый для рэалізацыі права жанчын на працу, на абарону іх жыцця і здароўя.

Пастанова рэкамендуе аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму стварыць у органах выканаўчай улады ўсіх узроўняў структуры, якія будуць займацца пытаннямі сям'і, жанчын, аховы мацярынства і дзяцінства. Міністэрствам, ведамствам, аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму сумесна з прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі, незалежна ад форм уласнасці, прапануецца ў першачарговым парадку вырашыць пытанні забеспячэння канкурэнтаздольнасці жанчын на рынку працы шляхам абучэння іх новым прафесіям, арганізацыі перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі.

Дакумент таксама рэкамендуе наймальнікам і камітэтам прафсаюзаў у поўнай меры рэалізоўваць калектыўныя дагаворы, каб не дапускаць дыскрымінацыі жанчын пры прыёме на работу, аплаце працы, перамяшчэннях па службе, звальненнях.

Акрамя таго, Дзяржкамітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Дзяржкамстату сумесна з Дзяржэканампланам даручана ў шасцімесячны тэрмін вывучыць магчымасць распрацоўкі тэрытарыяльных прагнозаў рынку працы, у тым ліку па полу і ўзросту, з улікам перспектыў развіцця тэрыторый як наогул, так і па асаблівасцях сферы занятасці, а таксама па прафесіях і прадставіць адпаведныя прапановы ў Саўмін.

Пастанова змяшчае і іншыя рэкамендацыі дзяржаўным і прадпрымальніцкім структурам па пытаннях забеспячэння фактычнага раўнапраўя жанчын і мужчын у палітычным, сацыяльным, эканамічным і культурным жыцці рэспублікі.

*Мы жывём на адной планеце*

## "Надзея" прыходзіць своечасова

**Спецрэйсам з ЗША ў аэрапорт "Мінск-2" прыбылі медыкаменты і абсталяванне для бальніц пацярпеўшых раёнаў Магілёўскай вобласці.**

Адпраўшчык — арганізатары доўгатэрміновай акцыі "Надзея-экспрэс".

Дапамога ад амерыканскіх грамадзян, якія сабраліся пад сцягам міласэрнасці і спачування пастара Мора, ужо не раз і вельмі своечасова прыходзіла ў Беларусь. Яшчэ ў жніўні амерыканскія валанцёры пабывалі ў медустановах Чэрыкаўскага, Слаўгарадскага і Быхаўскага раёнаў, каб даведацца, у чым канкрэтна маюць патрэбу медыкі і іх пацыенты. Вось чаму гуманітарны груз у 14 тон, ацэнены амаль у мільён амерыканскіх долараў, змяшчае строга вызначаныя, "заказныя" лякарствы і інструментарый.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, Белінфарм..**

*Пытанне па сутнасці*

## Хто купіць радыятарны,

### або Навошта прыватызаваць экалагічна небяспечны аб'ект?

Хачу звярнуць увагу ўрада, грамадскасці на сур'ёзную праблему. Як вядома, у рэспубліцы ідзе прыватызацыя. На 20 снежня г.г. намечаны конкурс на прыватызацыю аб'ектаў дзяржаўнай (рэспубліканскай) уласнасці. У пераліку аб'ектаў ёсць і Мінскі завод ацяпляльнага абсталявання. Ужо шмат гадоў экалагічныя службы і насельніцтва горада патрабуюць закрыць гэтую вытворчасць або хоць бы рэзка паменшыць колькасць выкідаў забруджвальных рэчываў. Пакуль завод быў дзяржаўным прадпрыемствам, яго абаранялі на высокіх партыйных і дзяржаўных узроўнях. Ну а што будзе пасля прыватызацыі?

Калі на сесіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў мы абмяркоўвалі гарадскую праграму прыватызацыі, дык, улічваючы вопыт іншых краін, асабліва Германіі, прынялі рашэнне аб абавязковым уліку кошту работ па прывядзенню аб'ектаў у экалагічна бяспечны стан. Прывяду таксама кароткую цытату з сумеснага даклада ўрада Беларусі і Сусветнага банка: "... трэба праводзіць абавязковыя абследаванні экалагічнай эфектыўнасці (экалагічны аўдыт) канкрэтных прадпрыемстваў як частку працэсу рэструктурызацыі і прыватызацыі..." Дык чаму ж урад не прытрымліваецца ўласных рэкамендацый?

Нельга падманваць будучых уласнікаў, прадаючы ім прадпрыемства сёння і закрываючы яго заўтра. Кошт рэканструкцыі завода ацяпляльнага абсталявання ў шмат разоў большы за яго сённяшні кошт, і пакупнікі павінны гэта ведаць. Яны таксама павінны ведаць, што ў апошні раз рашэнне аб закрыцці ліцейнай вытворчасці прадпрыемства было прынята галоўным дзяржаўным санітарным урачом г.Мінска 3 красавіка 1989 года і яго ніхто не адмяняў.

На жаль, усё сказанае датычыцца многіх экалагічна небяспечных прадпрыемстваў рэспублікі.

**Міхась ФРЫДЛЯНД, старшыня камісіі па экалогіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.**

*После выступления "Народной газеты"*

## За профессионально неграмотные действия нужно отвечать

11 ноября 1993 г. в "Народной газете" была опубликована критическая корреспонденция "Кто в доме хозяин?" В ней речь шла об инциденте, имевшем место 9 ноября с собственным корреспондентом газеты "Коммерсант-Дэйли" А.А.Старикевичем. Имея аккредитационный документ, он долгое время не мог попасть в здание Дома правительства для освещения работы сессии Верховного Совета.

Вот какой ответ получила редакция от министра внутренних дел Республики Беларусь В.Д.Егорова:

"Сообщаю, что по критической статье "Кто в доме хозяин?", опубликованной в "Народной газете" 11 ноября 1993 г., МВД Беларуси проведена проверка.

За профессионально неграмотные действия при рассмотрении инцидента, имевшего место 9 ноября 1993 г. с собственным корреспондентом газеты "Коммерсант-Дэйли" А.А.Старикевичем в здании Дома правительства, командиру полка милиции Минского городского управления объединения "Охрана" при МВД Беларуси подполковнику милиции Ероловичу Г.В. объявлен выговор.

В ходе проверки в МВД Беларуси Еролович Г.В. принес свои извинения А.А.Старикевичу".

### От редакции

Получив ответ министра внутренних дел В.Д.Егорова, мы позвонили подполковнику Г.Ероловичу и попросили высказать свою точку зрения на происшедшее. Вот что он сказал:

— В тот день, 9 ноября, я оказался случайным свидетелем уже разгоревшегося конфликта А. Старикевича с постовым милиционером.

Я услышал, что журналист угрожал уволить работника милиции за то, что его не пропускают на сессию парламента. По словам постового милиционера, Старикевича без пропуска пытались провести на сессию Верховного Совета народные депутаты. А, согласно инструкции, в здание Дома правительства можно пройти только по пропуску. Так что действия милиционера были правильными, тем более, что в отличие от предыдущих сессий ныне на пост охраны вообще не принесли список аккредитованных журналистов (и после инцидента мне пришлось самому брать его в пресс-службе Верховного Совета). Удивительно было читать, что я силой выдворил Старикевича из Дома правительства — это было сделано в корректной форме.

Ознакомившись с комментарием Г.Ероловича, подумалось: как же так — министр признает его действия противоправными, а он представляет себя чуть ли не ангелом. И мы нашли А.Старикевича, чтобы показать ему и ответ В.Егорова, и комментарий Г.Ероловича. Вот его мнение:

— Я в некоторой степени удивлен тем, что Г.Еролович, недавно рассыпавшийся в извинениях передо мной, снова заявляет об отсутствии у меня какого-то пропуска. Аккредитационное удостоверение, дающее право беспрепятственного прохода в здание Верховного Совета и на сессии парламента, проходящие в Доме правительства, было у меня и 8 ноября, и 9-го, и полгода назад. Спорить о правильности и корректности его действий у меня вообще нет никакого желания: пусть точки над "і" расставит прокуратура Республики Беларусь, куда я обратился с заявлением о возбуждении уголовного дела по факту превышения служебных полномочий сотрудниками управления государственной охраны. Г. Еролович выглядел очень "крутым", когда выдворял меня из Дома правительства. Пусть теперь покажет свою крутизну следователю прокуратуры. Что касается утверждения, будто бы я угрожал постовому милиционеру увольнением, то, по всей вероятности, Ероловичу мало выдвинутого обвинения по одной статье Уголовного кодекса. Он напрашивается на то, чтобы быть привлеченным к ответственности еще и за клевету.

Я понимаю, что вам, господа, нужно как-то выпутаться из некрасивой истории. Но не надо при этом держать всех остальных, включая народных депутатов и собственного министра, за простачков. В присутствии нескольких свидетелей постовые утверждали, что им дано указание не по всем журналистам, а персонально по Старикевичу: не пускать в Дом правительства ни под каким соусом. Этот факт подтверждается также тем, что и в тот день, и накануне из всех корреспондентов, аккредитованных при Верховном Совете, проблемы возникли только у меня. Так что дело тут не в пропуске и не в списках аккредитованных журналистов.

Надеюсь, прокуратура не ограничится версией о том, что происшедшее было недоразумением, а проведет полное расследование обстоятельств дела. Ясно, что сотрудники управления государственной охраны в той ситуации были лишь исполнителями. Хотелось бы знать: кто отдал им незаконный приказ? Частично ответ на этот вопрос дан в недавнем письме Эдуарда Ширковского и Владимира Егорова, в котором говорится: "И хотя данное подразделение структурно входит в МВД, налицо явное стремление руководителя Госсекретариата подчинить его непосредственно себе". Остальное — за прокуратурой.

❑

### Група з 38 народных дэпутатаў рэспублікі пісьмова звярнулася да генеральнага пракурора Беларусі В.Шаладонава

На думку аўтараў ліста, "9 лістапада 1993 г., у дзень адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета, супрацоўнікі міліцыі з падраздзялення аховы Дома ўрада свядома і груба парушылі правы народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь І.Герменчука, С.Папкова, А.Шута. У прыватнасці, быў парушаны арт. 25 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб статусе народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь", які надзяляе дэпутата правам "выявіўшы парушэнне правоў і ахоўваемых законам інтарэсаў грамадзян або іншыя парушэнні законнасці, (...) на месцы патрабаваць спынення парушэння".

Далей тлумачыцца, што гаворка ідзе пра парушэнне правоў журналіста А.Старыкевіча, якога супрацоўнікі міліцыі не дапускалі на пасяджэнне сесіі. На працягу чатырох гадзін дэпутаты дамагаліся выканання закона, аднак толькі пасля асабістага распараджэння міністра ўнутраных спраў У.Ягорава ахова Дома ўрада спыніла свае беззаконныя дзеянні.

"Такім чынам, — лічаць дэпутаты, — незаконнымі дзеяннямі супрацоўнікаў міліцыі Ч.Целюка, Г.Ераловіча, а таксама тымі, хто накіроўваў гэтае беззаконне, народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь была нанесена істотная шкода. Мы настойваем на ўзбуджэнні крымінальнай справы па арт. 166, 167 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь і прыцягненні вінаватых да крымінальнай адказнасці".

"Народная газета" праінфармуе чытачоў пра далейшы ход разбору гэтага інцыдэнта.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Гасцёўня "Народнай газеты"*

## Адам Палюховіч, прэзідэнт "Дайновы":

# "Бізнес дае мне галоўнае — магчымасць рызыкаваць сабой"

Алена МАЛОЧКА,
Сяргей ГРЫЦ (фота)



Спачатку гэта шчыра шакіравала: якаясьці прыватная камерцыйная фірма да кожнага вялікага свята публікуе ў газетах віншаванні беларускаму народу ад свайго імя. Ну, проста як ПКалітбюро. Праўда, — і гэта суцяшала — стыль віншаванняў быў высокамастацкім... Прайшоў час. Сёння віншаванні ад "Дайновы" ўспрымаюцца намі зусім натуральна, як, зрэшты, і назва самой фірмы, якая мільгае ледзь не ва ўсіх газетных выданнях рэспублікі і асацыіруецца ўжо з беларускім бізнесам увогуле. Цікавасць да "Дайновы" падагравалася таксама чуткамі аб ёй як аб самым шчодрым мецэнаце беларускага мастацтва. Пагаварвалі таксама і аб сяброўстве фірмы з БНФ... Прычын для знаёмства назбіралася дастаткова, і я стала дамаўляцца аб сустрэчы з яе прэзідэнтам.

Офіс "Дайновы" размешчаны ў дзесяці хвілінах язды ад плошчы Незалежнасці. Ля ўваходу — міліцыянер, ён старанна вывучыў мае дакументы і запісаў у журнал (не тое, што ў іншых месцах: усміхнуўся — і ідзі сабе далей). Прыёмная "Дайновы" афармлена ў адпаведнасці з патрабаваннямі цяперашняга камерцыйнага стылю — у чорна-белым колеры. На сцяне, там, дзе раней быў бы змешчаны партрэт правадыра, вісяць узятая ў рамку скрыпачка і плеценыя лапцікі. Вось такі сімбіёз нацыянальнага акцэнту са стандартам агульнапрынятай моды. Напэўна, гэта выглядала б знарочыста, калі б не адно "але". Рабочая мова фірмы — беларуская. На ёй свабодна размаўляюць амаль усе супрацоўнікі "Дайновы" на чале з прэзідэнтам, для якога гаварыць па-беларуску — "справа прынцыпу". Памятаю спрэчку, калі на кінутую рэпліку: "Ці час цяпер думаць аб мове, калі эканамічна мы такія слабыя і бездапаможныя?" — Адам адказаў толькі адной фразай: "А ці час думаць пра Бога?.." Адам Палюховіч увогуле, як мне здалося, чалавек жалезных установак і строгіх правілаў. Ён — нібыта гладка адшліфаваная піраміда, дзе ні трэшчынкі, ні шарахаватасці, ні заганы, дзе бакі і плоскасці, як бы шырока ні разыходзіліся ля асновы, усё роўна падпарадкаваны вастрыні — волі і інтэлекту.

Палюховічу 36 гадоў. Ён падцягнуты, элегантны, у меру прыязны, падкрэслена пачцівы. І пры ўсім гэтым — вельмі натуральны: прыкмета асобы таленавітай, якая фарміравала сябе самастойна і строга.

Інтэрв'ю пачалося з таго, што Адам цвёрда акрэсліў трохвугольнік тэм, закранаць якія ў размове не варта. Гэта, па-першае, палітыка (вось табе і раз!), затым дабрачыннасць, а таксама асабістае жыццё (шкада, але зусім зразумела). Потым ён як бы спакваля зазначыў, што ўсе папярэднія сустрэчы з журналістамі пакінулі ў яго прысмак недарэчнасці — перш за ўсё недакладнасцю выкладання... Урэшце, такія вось патрабавальныя ноткі, прамільгнуўшыя ў пачатку размовы, не раздражнілі, а толькі ўзмацнілі ўражанне аб Палюховічу як моцным лідэры.

Маё першае пытанне было з шэрагу трывіяльных:

**— Як вы сталі прэзідэнтам?**

— Звычайна — галасаваннем.

**— Тады пастаўлю пытанне інакш: як вы сталі бізнесменам?**

— Не было іншага выйсця. Пасля універсітэта працаваў інжынерам-праграмістам. Адразу сутыкнуўся з абставінамі працы ў тагачасных дзяржаўных НДІ. Прыходзілася часцяком сядзець за камп'ютэрамі да дзесяці вечара. Восемдзесят працэнтаў работы выконвалася дваццацю працэнтамі калектыву. У кожным з аддзелаў было некалькі фанатаў, якія ў сваёй большасці працавалі і не праяўлялі вялікай зацікаўленасці да грашовага выніку працы. Гэтыя людзі выконвалі работу за 3—6 чалавек, а атрымлівалі ўсяго на 10—20 рублёў больш. Сістэмай ім было вызначана адно — "пахаць". І яшчэ слухаць іранічна-кплівае: "Ты што, звіхнуты? Табе больш за ўсіх трэба?"

Што мне "свяціла"? А нічога. Хлопец з Заводскага раёна Мінска, з пралетарскага асяроддзя (бацька — слесар, маці — кандуктар). Але мне сапраўды трэба было больш. Мая натура адмаўлялася проста цягнуць лямку. З цягам часу глынуў волі на "шабашках". Прачысціў мазгі ад марксісцка-ленінскай ідэалогіі ў турпаходах, на злётах — памятаеце: песні, барды, размовы аб свабодзе... Таму, як толькі стала магчыма, пайшоў з НДІ ў кааперацыю. Так, цяпер я шчаслівы. Але парадокс у тым, што і раней мне было жыць цікава. Было шмат вольнага часу, які пры жаданні з розумам можна было траціць на сябе. Пасля універсітэта, напрыклад, я паступіў на завочнае аддзяленне ў інстытут фізкультуры. Мяне захапляла магчымасць вучобы, атрымання новай інфармацыі — анатомія, фізіялогія, біяхімія, псіхалогія. І хоць прыходзілася часцяком брынчаць дробяззю ў кішэнях і купляць бярозавы сок замест яблычнага, таму што бярозавы таннейшы, унутрана я адчуваў сябе ўпэўненым.

**— Вось як? Вы што, хочаце сказаць, што грошы вас ніколі не цікавілі? Не паверу...**

— Грошы мяне заўсёды цікавілі, таму што яны — сродак да існавання. Але яны не могуць быць сапраўднай мэтай у жыцці мужчыны. Для мяне, ва ўсялякім разе, мэта ў іншым — у руху: я будую дом, дарогу, сябе, фірму. Я — ствараю, я — жыву.

**— Падобна, вы і пры кампартыі не засталіся б у цяні. У вас да жыцця моцны прыкус. Мяркуючы па "Дайнове", хочацца сцвярджаць, што ў бізнес пайшлі лепшыя з нас.**

— Можа, не самыя-самыя, але і не дурні. Гэта ўжо дакладна. На сённяшні дзень фірма мае галоўнае — каманду. Што гэта значыць? Тлумачу на фантастычным прыкладзе. Калі заўтра нейкія вярхоўныя ўлады выдадуць пастанову аб спыненні камерцыйнай дзейнасці фірмаў, якія працуюць у напрамку дзейнасці фірмы "Дайнова", анулююць усе банкаўскія рахункі, мы ўсё роўна не прападзём. Мы зможам зноў пачаць з нуля — ды хоць гаршкі абпальваць будзем! — і выжывем! Вось што такое сапраўдная каманда.

**— А ваша фірма бывала на мяжы краху?**

— Разы два мы мелі сур'ёзныя страты. Падручнікаў жа па бізнесу няма. А за навуку трэба плаціць. Багата сёння людзей, якія робяць стаўку на падман. Магу прыводзіць шмат прыкладаў, але прывяду толькі адзін. Ёсць на Беларусі такая "Асацыяцыя садзейнічання развіццю сялянскіх гаспадарак". Яе кіраўнік спадар Валянцін Фядуцік у верасні 1992 года папрасіў у мяне фінансавай падтрымкі, таму што асацыяцыя была ў цяжкім стане. Была рэкамендацыя чалавека, якога я вельмі паважаў у той час. Падпісалі адпаведную дамову на пастаўку тавараў, па якой мы пералічылі вялікія на той час грошы. Гэтая сума для "Дайновы" ператварылася ў аплату за навуку. Да сённяшняга дня я чую абяцанкі: "Заўтра кампенсуем". Але, зрэшты, пачуцця поўнага адчаю я не перажываў ніколі. А цяпер я наогул умею радавацца цяжкасцям.

**— Як трапіць на работу ў "Дайнову" і ці магчыма гэта ў прынцыпе?**

— Крытэрый падбору кадраў такі: надзейнасць і давер. За вас павінен паручыцца хтосьці з нашых супрацоўнікаў, для якога вы з'яўляецеся блізкім сябрам. Плюс высокі прафесіяналізм. Але калі з вамі ўжо заключаны кантракт, то можна быць упэўненым, што фірма ў сваю чаргу нясе перад вамі абавязкі. Нашы супрацоўнікі, напрыклад, бясплатна харчуюцца ў кафэ фірмы. У нас ёсць свой повар, так што абеды і кубак гарбаты або кавы заўсёды па першаму патрабаванню. Мы гарантуем матэрыяльную забяспечанасць адпаведна выкананай працы і іншую сацыяльную абароненасць. Напрыклад, бясплатныя пуцёўкі супрацоўнікам і іх дзецям на адпачынак.

**— Імідж "Дайновы" — падкрэслена нацыянальны. Скажыце, Адам, а бізнес у вас таксама нацыянальны? Чым адрозніваецца беларускі бізнес ад расійскага, скажам?**

— Нічым. Бізнес — гэта максімальная выгада, максімальны эфект, яны не могуць быць нацыянальнымі. Іншая справа — куды фірма накіруе свае прыбыткі. Зразумела, што ў прадпрыемстве, якое думае аб сваім будучым, немалая іх частка накіроўваецца на развіццё асноўнай дзейнасці. Але таксама могуць існаваць і іншыя напрамкі інвесціравання. Гэтыя напрамкі і вызначаюць нацыянальны, гуманітарны, спартыўны, экалагічны і г.д. імідж фірмы. Ну, а з кліентамі, якія прыносяць прыбытак фірме, я размаўляю на іх мове і пры гэтым ніколькі не крыўджу сваёй натуры.

**— А якую замежную мову, акрамя рускай, вы ведаеце?**

— У школе і ва універсітэце вывучаў французскую. Зараз вучу англійскую. Калі спатрэбіцца, вывучу кітайскую.

**— Паводле Маркса, першапачатковы капітал — гэта капітал нарабаваны. З чаго пачыналі вы?**

— Ну, Маркс, як паказвае гісторыя, мог і памыляцца. Мы пачыналі ў 88-м з кааператыва, які займаўся праграміраваннем, зборкай камп'ютэраў. Круціліся, як кажуць, па 25 гадзін у суткі. Кожную капейку прыбытку ўкладвалі ў справу. І гэтак тры гады запар. І толькі потым з'явілася "Дайнова".

**— Калі вы купілі свой першы аўтамабіль?**

— Праз паўтара года пасля таго, як пайшоў з дзяржаўнай службы.

**— Адам, вам часта даводзіцца даваць хабары?**

— Не.

**— Не?**

— Разумею, вы не верыце. Але я кажу праўду. Вядома, мы б не пазбеглі такіх выдаткаў (чыноўнік наш яшчэ галодны і прагны), але ўся справа ў тым, што "Дайнова" працуе на завоз камплектацыі, аргтэхнікі, металу на Беларусь, а не на вываз з рэспублікі высокапрыбытковых тавараў — сыравіны, угнаенняў і г.д. У нас няма неабходнасці выбіваць ліцэнзіі ў міністэрствах. Мы не карыстаемся таннымі крэдытамі.

**— І вы заўсёды ў ладах з законам?**

— Я таксама заўсёды ў ладах з мараллю. Гэта зразумела і абавязкова. Бізнес і маральнасць — сінонімы. Некаторыя справы робяцца толькі на падставе тэлефонных перамоў. Мы з партнёрам з Амерыкі верым адзін аднаму на слова. Слова бізнесмена — закон. Гэта — паршае. Па-другое, я ніколі не кажу нічога кепскага пра канкурэнтаў. Тым больш у мэтах рэкламы. У хлусні ж ёсць адваротная сіла.

**— Вы ствараеце ўражанне чалавека, які не робіць памылак... Ці так гэта?**

— Хм, каб сфарміравацца, чалавек павінен прайсці праз памылкі і грахі.

**— Адам, я ведаю, што вы не абыякавы да жывапісу, мастацтва. Кажуць, нават з Францыі прывезлі карціну Заборава, мастака, чыё імя, насуперак яго еўрапейскай вядомасці, у беларускім творчым асяроддзі да гэтага часу ўспрымаецца, я б сказала, хваравіта.**

— Ведаю, тым не менш магу сцвярджаць, што Забораў — геніяльны мастак. Яму да гэтага часу не могуць дараваць, што ён эмігрыраваў у Парыж — "ён жа быў так добра ўладкаваны!" Бацюхны, якое абывацельскае ўяўленне аб жыцці! Я таксама быў "добра" ўладкаваны па цяперашніх уяўленнях, але хіба гэта супастаўныя рэчы: камфорт і творчая свабода?! Мы ж жылі ў шкарлупіне, у акварыуме, мы да гэтага часу не ведаем, што такое воля. Забораў паехаў у Парыж таму, што тут яму не хапала кіслароду. Але ўсё роўна ён застаўся нашым, тутэйшым. Па некалькі разоў на год ён малюе беларускае гумно. Я бачыў гэтыя карціны — ей-Богу, за душу бяруць.

**— А Парыж?**

— Фантастычны горад. Сімвал і сімбіёз гісторыі, інтэлекту і чалавечнасці.

**— Ваша паездка ў Францыю была турыстычнай?**

— Што вы! Гэта было б раскошай. За апошнія тры гады я адпачываў усяго тыдзень. У Парыжы даваліся сустракацца з многімі фірмачамі, графік быў настолькі напружаны, што я не змог нават выканаць просьбу блізкага чалавека — зайсці ў магазін і купіць касцюм. Мы заключылі розныя дагаворы, у тым ліку і на пастаўку французскіх він — усе яны пайшлі на спажывецкі рынак Мінска.

**— Так, выбар він велізарны. За велізарныя грошы. Хто іх можа дазволіць сабе купіць? Ці ёсць сэнс гандляваць з Францыяй, калі ў большасці з нас такія мізэрныя зарплаты?**

— А ці ёсць увогуле сэнс у нашай эканоміцы? Мы ж плывём куды вецер дзьме.

**— Чаму б вам не заняцца палітыкай? Вы адукаваны, незалежны, не ведаеце вялікіх грашовых праблем.**

— Палітыка — брудная рэч. Я па натуры не люблю спрачацца. Бессэнсоўная справа! І да таго ж мне проста шкада свайго часу.

**— Хіба бізнес цікавей?**

— Яшчэ б! Ён дае галоўнае — магчымасць рызыкаваць сабой.

---

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб устанаўленні свята Дня беларускай навукі

Разгледзеўшы прапановы камісій Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, па навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу і Акадэміі навук Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць у Рэспубліцы Беларусь свята — Дзень беларускай навукі.
2. Дзень беларускай навукі адзначаць штогод у апошнюю нядзелю студзеня.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

22 лістапада 1993 г.
г.Мінск.
N 2576-XII

---

*Мы и экономика*

# Десять тезисов,

## или Как нарастить рыночные мускулы

Игорь ФИЛИПЕНКО

**В кругах Белорусской научно-промышленной ассоциации активно обсуждаются так называемые Десять тезисов БНПА относительно политической и экономической ориентации Республики Беларусь.**

Центральная идея состоит в следующем. До и прежде приватизации необходимо провести внутреннюю структурную перестройку предприятия, подготовить к работе в условиях рынка. Такая перестройка подразумевает, в частности, избавление от вспомогательных структур путем выделения их в самостоятельные хозяйственные единицы.

После этого шага предприятие сможет сосредоточить все ресурсы на основном производстве — и тогда у него больше шансов добиться научно-технических прорывов. Лишь после подобной подготовки можно приступать к полной или частичной приватизации. Очень важно, подчеркивается в документе, чтобы экономическими участниками этого процесса были как государство, так и работники предприятия. О других потенциальных субъектах приватизации "Десять тезисов..." не упоминают. Так же как и обходят полным молчанием концепцию чековой приватизации, уже казалось бы никем не оспариваемую. Более того, БНПА прямо предостерегает от принятия российской модели приватизации в целом. Для белорусской экономики она неприемлема, ибо "начатые в России процессы неизбежно приведут к широкому обнищанию и гибели основных производств".

Вполне логичной выглядит и следующая идея — наделить промышленные предприятия правами на земельную собственность. Собственные земельные участки дали бы возможность получать крупные ипотечные ссуды и тем самым как-то разрешить проблему нехватки оборотных средств.

Не обходит манифест БНПА и такую болезненную проблему, как безработица. Структурная перестройка неотвратимо повлечет за собой сокращение рабочих мест. Кто должен взять на себя заботу о трудоустройстве и переобучении освобождаемых работников? В большей степени это задача государства, утверждается в "Десяти тезисах..." Если же ответственность и издержки защиты от последствий безработицы государство хочет возложить на предприятия, то последние должны получить соответствующие финансовые или налоговые льготы. Заниматься благотворительностью за свой счет промышленники не хотят.

Остальные "тезисы" трудно называть свежими. В сущности, это констатация, что лучше быть богатым и здоровым, чем бедным и больным. Правительству напоминают, что предприятия хотят работать в условиях остановленной инфляции, предсказуемой и разумной налоговой политики, надежного правопорядка в стране и работающего хозяйственного законодательства.

Пожалуй, это все о содержании документа. Главное, о чем он свидетельствует, — руководители промышленных гигантов перестали ожидать чуда. Как от экономического союза, так и от стремительных депутатских визитов в Москву. Рынок в Беларуси придется создавать самим.

Другое дело, что директорский взгляд на приватизацию столкнется с другими подходами. Своя точка зрения наверняка имеется у профсоюзов. Вряд ли тысячи потенциальных безработных безропотно согласятся потерять те блага и льготы, которые давала работа на промышленном гиганте. И самое главное — быть исключенными в результате сокращений из числа будущих собственников своего завода.

Имеют представление о своем месте в приватизации и предприниматели.

И все же не стоит считать плод теоретической мысли БНПА всего лишь бумагой. Четыре белорусских предприятия уже дали согласие провести у себя структурную перестройку — сбросить жирок и нарастить рыночные мускулы. Не самые последние — НПО "Интеграл", БелОМО, "БЕЛВАР" и МАЗ.

---

*Усміхнёмся з мастаком?*




Малюнак Алега ПАПОВА.

---

*Факт*

## Банк пайшоў у народ

У канкурэнцыю з дамарослымі і заезджымі скупшчыкамі і мянямамі валюты на магілёўскім рэчавым рынку ўступіла галоўнае ўпраўленне Нацыянальнага банка Беларусі па вобласці.

Яго абменны аўтасалон пачаў працаваць тут у выхадныя дні пастаянна. За першыя такія выезды "ў народ" для валютнага фонду рэспублікі закуплена "канверсуемых" столькі, сколькі ў сценах банка было набыта за апошнія тры месяцы.

**Белінфарм.**

---

*Шаги прогресса*

## Хранит тепло, покой, секреты...

**Инженер Брук начинал бизнес с ручного труда, самолично клея пленку на стекло клиентов. Сейчас пленка, которая называется бруксафол, рассылается в 20 стран Европы. За прошлый год только в Польше было продано 80 тыс. квадратных метров бруксафола.**

Так в чем же секрет успеха пленки? Прежде всего в ее свойствах, обеспечивающих безопасность в самом широком смысле этого слова. Наклеенная на стекло пленка гарантирует безопасность, если кому-то придет в голову бросить камень в офис или автомобиль. Стекло, покрытое пленкой бруксафол, выдерживает удар силой до 44 килограммов на квадратный сантиметр. При более сильном ударе пленка удерживает битое или треснувшее стекло, что сохраняет его защитные функции. Пленка придает стеклу и термостойкость. Кроме этого, бруксафол прекрасно изолирует от различных излучений. Например, поглощает 99 процентов УФ-излучений, тем самым помогая сохранить от выгорания одежду, мебель, а также товары, лежащие на солнце. Летом бруксафол становится препятствием для жары, а зимой — для холода. Пленка экономит в помещении до 30 процентов тепла (прохлады). Бруксафол может поглощать до 93 процентов излучаемых радиоволн, что существенно осложняет радиопрослушивание помещений, т.е. подслушивание.

Очень популярна автомобильная пленка бруксафол. Ее используют такие известные фирмы, как Audi, BMW, Opel, Mercedes. Такая пленка обеспечивает защиту от осмотра снаружи, не искажает обзор изнутри салона, оберегает обшивку от выгорания на солнце, способствует безопасности движения.

К тому же бруксафол не только защищает, но и украшает интерьер. Некоторые модификации позволяют создать интересные световые эффекты, придавая убранству помещения золотистый, серебряный, бронзовый и другие оттенки. Одновременно бруксафол может выполнять функции тонированного стекла.

До недавнего времени установить бруксафол в Беларуси было практически невозможно. Однако сейчас эту проблему легко решить через новое представительство фирмы Bruxsafol — минскую ПКФ "Stens" (тел. 20-93-79). Пленка, изготовленная методом ионоплазменного напыления, накладывается на внутреннюю поверхность стекла вплотную к раме. Через некоторое время клеевой слой затвердевает и пленка достигает максимального соединения со стеклом. Ее можно наклеить в несколько слоев и тем самым усилить показатели.

**Светлана САБИЛО.**

---

*Рэпарцёр даведаўся*

## "Песні пачынаюцца з сэрцаў"

**Так называецца зборнік твораў самадзейных кампазітараў Магілёўшчыны, які выпусціў абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветнай работы.**

Ён адкрываецца песнямі старэйшага кампазітара Прыдняпроўя, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, мастацкага кіраўніка Клімавіцкага народнага хору Леаніда Ячнева.

У кніжцы таксама змешчаны песні магіляўчан Уладзіміра Рубаніка, Яўгена Маланкова, Міхаіла Кастрыцы, асіпаўчаніна Віктара Шышкаўца, Валянціны Макеевай і Барыса Магаліфа, якія жывуць у Горках.

Зборнік добра аформлены і амаль што нічым не адрозніваецца ад "фабрычнага".

**Іван ПЕХЦЕРАЎ.**

---

*Актуальное интервью*

# В зоне особого... беспорядка

**Внештатный корреспондент "Народной газеты" Валерий Татарцев беседует с начальником отдела "Чернобыль" МВД Республики Беларусь полковником внутренней службы Валерием ПОПОВЫМ.**

— Валерий Петрович, начнем с такого вопроса: почему нарушители проникают в радиационную зону? Неужели не боятся?..

— Выходит, что нет. Цель у них одна — нажива... Располагая всего 19 контрольно-пропускными пунктами и 30 мотопатрулями, мы не можем надежно защитить огромные территории от посторонних лиц. Ведь не поставишь милиционера на каждой лесной тропинке. Как ни стараемся, а разного рода любители дармовщины, бомжи, скрывающиеся преступники проникают в пустующие селения. Вывозят и выносят стройматериалы, предметы домашней утвари, цветные металлы — словом, все, что можно выгодно продать или использовать для своих нужд. За неполный нынешний год уже составлено 4700 протоколов на нарушителей.

— Но ведь есть и законное право на вывоз каких-то материалов той или иной организацией?

— Да. Но все дело в том, что лабораторный анализ на степень радиационного загрязнения проводится на местах районными службами. Те же, располагая весьма малочисленным составом, не всегда и всё успевают качественно проверить. Да и целиком завися от районного начальства, они просто иногда закрывают глаза на "пустячные" отклонения от нормы. Иные вообще не обращаются к услугам лабораторий, проводят в зоне отселения демонтажные и другие работы.

— Недавно довелось беседовать с одним из сотрудников вашей службы. Он с возмущением рассказал, что местные руководители, случается, давят на работников милиции, заставляют их пропускать незаконный груз или не мешать проведению на загрязненной территории сельскохозяйственных и других работ.

— Взводы охраны подчиняются районным отделам милиции, которые, в свою очередь, подчинены райисполкомам. Вы сами понимаете, что неугодных могут подвергнуть всяческим гонениям, а то и попросту выжить.

— А конкретные случаи?

— Пожалуйста. По указанию руководителей Чечерского района колхозы имени Ленина, Суворова, Кирова и "Юбилейный" вели заготовку зеленой массы... на загрязненных землях. При этом к работе были привлечены и учащиеся Чечерского СПТУ.

Узнав об этом, начальник отдела "Чернобыль" Гомельского УВД С.Мазепин распорядился немедленно убрать оттуда людей и технику. И что же? "Хозяин" района вызвал к себе заместителя начальника райотдела милиции В.Глушака и дал ему нагоняй за срыв кормозаготовок...

В конце концов, наказание понесли "стрелочники": оштрафованы председатели колхозов, пославшие людей и технику в зону, и лишены премии за квартал руководители Чечерского РОВД.

— Знаю, Валерий Петрович, что вы подготовили рапорт, в котором сообщаете, что самовольное ведение сельхозработ на загрязненной территории приобретает массовый характер. Но только ли самодеятельность хозяйственников и властей тому причина?

— Конечно. Этому способствуют, во-первых, лояльные статьи закона о правовом режиме загрязненных территорий; во-вторых, отсутствие единого мнения среди ученых относительно дальнейшего использования этих земель. Некоторые открыто заявляют, что зону можно использовать для сельскохозяйственного производства.

В настоящее время наблюдается и процесс реэвакуации населения. С целью заполучить дополнительно рабочую силу руководители хозяйств сами помогают самоселам. Увеличивается и число возвращенцев — людей в основном преклонного возраста, которые не прижились на новом месте. Нас часто обвиняют в том, что мы бездействуем. Но ведь просто не хватает сил, нет полномочий, чтобы воспрепятствовать проникновению в зону. Для надежной охраны каждой отселенной деревни необходимо как минимум 3,5 тысячи сотрудников милиции, около ста патрульных машин. Где все это взять?

— Что вы предлагаете сделать в такой ситуации?

— Прежде всего необходимо пересмотреть некоторые статьи Кодекса об административных правонарушениях, повысить ответственность граждан и особенно должностных лиц за нарушения закона о режиме территорий, подвергшихся загрязнению. Требуется также более оперативная работа судебных органов, потому что в настоящее время многие дела откладываются в долгий ящик. Например, по Гомельской области в минувшем году судами рассмотрено только 47 процентов протоколов, составленных нашими сотрудниками.

---

*Эх, рынак!..*

## Сабака — сябар чалавека. Дарагі

**Самы адданы і бескарыслівы сябар. На жаль, сёння ён яшчэ і вельмі дарагі. Падобна на тое, што як і ў часы нэпа, калі сімвалам дабрабыту была жоўтая канарэйка, дык зараз паказчыкам непатапляльнасці ў балоце паміж двума "ізмамі" стала наяўнасць пародзістага чатырохногага сябра.**

Па закону рынку, калі ёсць попыт, недзе побач павінна хадзіць прапанаванне. Яно і "ходзіць" — па рынках, ліхтарных слупах ды рэкламных калонках гарадскіх газет. І калі пра будучае кусальнай здольнасці шчанят меркаваць цяжка, дык звярыны выскал цэн — у наяўнасці. З агульнай масы парод, якія карыстаюцца папулярнасцю, даражэй за ўсіх каштуюць шчаняты піт-бультэр'ера (да 600 долараў ЗША), бультэр'ера (ад 100 да 150). Больш танныя ратвейлеры (каля 130 баксаў), рызеншнаўцары (да 80), кокер-спаніелі (да 70). І ўжо зусім "капейкі" каштуюць шчаняты дога (ад 50 да 60 долараў), малых абрыкосавых і шакаладных пудзеляў (15—25).

Наогул сярэднестатыстычнаму беларусу яго сярэдняй зарплаты хопіць толькі на пагладжванне запаветнай шэрсткі фінансава недасягальнага чатырохногага сябра.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

